Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

17 снежня 1997 года
СЕРАДА
№ 76
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Атрымайце... дывідэнды!

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Другі тыдзень як АТ «Івацэвічдрэў» выплачвае дывідэнды уладальнікам акцый. У райцэнтры такіх шчаслівчыкаў налічваецца каля 1400 чалавек (у гэтым ліку ёсць і людзі, якія ў акцыянерным та...рыстве не працуюць, але акцыі маюць). Усяго ж па акцыянернаму таварыству уладальнікам акцый будзе выплачана 1 мільярд 93 мільёны рублёў, што складае 5% ад прыбытку прадпрыемства.

На адну акцыю выплачваецца па 8 тысяч рублёў. Сума, як бачыце, сціплая, і калі ўлічыць, што ў сярэднім акцыянеры маюць на руках па 30—50 акцый, то няцяжка падлічыць, што іхніх дывідэндаў хопіць мо на навагодні падарунак...

### У калгас — спецкадры!

**БЯРОЗА.** Яшчэ нядаўна калгас «Лясковічы» паспытваў вострую нехватку рабочай сілы. Дапамога прыйшла нечакана... з Бярозаўскай спецкамендатуры, якая накіравала ў калгас каля 10 асобаў, умоўна асуджаных да розных тэрмінаў пазбаўлення волі.

Калгас прадаставіў асуджаным жыллё і рабочыя месцы. У асноўным «зэкі» дояць кароў, даглядаюць жывёлу. Старшыня гаспадаркі задаволены: надоі хоць і невялікія, але стабільныя, каровы дояцца своечасова.

Гэтак жа задаволены работай «зэкаў» і ў калгасе «Боркі», дзе ім таксама даверылі работу даглядчыкаў жывёлы. Мо, каб палепшыць работу калгасаў, трэба ўвогуле пераходзіць да паслуг спецкадраў? Скажаце, занадта цынічная прапанова? А калі ў калгасы заганялі людзей пад дулам пісталетаў, то не лічылі гэта цынічным...

### Ніхто не забыты...

**БАРАНАВІЧЫ.** Гарадская друкарня рыхтуе да выдання кнігу жыхара горада Б. П. Шэрмана «Баранавіцкае гета. Калдычаўскі лагер смерці».

Аўтар кнігі, ветэран вайны і працы, былы экскурсавод дзесяцігоддзямі вывучаў і збіраў матэрыялы пра тых, хто прайшоў жудасныя фашысцкія лагеры і турмы.

Расходы на выданне кнігі, якая выйдзе 3-тысячным тыражом, узялі на сябе прадпрымальнікі, некаторыя прадпрыемствы і арганізацыі.

● *ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ*

## Харэограф Таццяна ВЕРЫЧ



*Целяханскі Дом дзіцячай творчасці. Тут працуе танцавальны гурток. У ім чатыры групы: малодшая, сярэдняя, старэйшая і група хлопчыкаў. У кожнай групе па 12—15 чалавек. Заняткі праходзяць два разы на тыдзень ў фае Целяханскага Дома культуры. Ахвотна асвойваюць майстэрства танца хлопчыкі і дзяўчынкі. У гэтым вялікая заслуга іх кіраўніка Таццяны Верыч. Закончыўшы Гродзенскае вучылішча мастацтваў, яна вось ужо тры гады працуе ў Целяханах.*

*Юныя танцоры паказвалі сваё майстэрства на раённым і абласным аглядах мастацкай самадзейнасці і заслужылі высокую ацэнку гледачоў і журы.*

*НА ЗДЫМКУ: Таццяна Верыч на занятках танцавальнага гуртка.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## «Фермеры» са сталіцы

**БЯРОЗА.** У раённым судзе разгледжана крымінальная справа групы махляроў з г. Мінска, якія займаліся ў Бярозаўскім раёне крадзяжамі ў асабліва буйных памерах.

Механізм махлярства быў простым. Жулікі вырабілі пячатку неіснуючай фермерскай гаспадаркі і па падробленых дакументах атрымлівалі тавары ў розных арганізацыях на велізарныя сумы.

Чарговую здзелку хацелі правярнуць з ААА «Бярозабудматэрыялы», дзе дамовіліся аб набыцці 35000 квадратных метраў абліцовачнай пліткі на агульную суму 196000 долараў. Ад іх на прадпрыемстве патрабавалі перадаплату тавару. Жулікі згадзіліся гэта зрабіць, і падробленае плацёжнае даручэнне перадалі ў ААА па факсу з паштовага аддзялення г. Бярозы. Вось гэта і выклікала падазрэнне ў начальніка збыту прадпрыемства. Яна пазваніла ў банк, высветліла, што ўказаных у плацёжцы плацельшчыкаў, іх разліковага рахунку ў прыродзе не існуе.

У вызначаны час «пакупнікі-фермеры» з'явіліся на прадпрыемства па тавар. Іх тут ужо чакалі... работнікі міліцыі. У працэсе следства былі выяўлены яшчэ шэсць буйных эпізодаў махлярства. Згодна з прыгаворам Бярозаўскага райсуда махляры асуджаны да пазбаўлення свабоды на тэрміны ад 5 да 10 гадоў.

## «Круглый стол» для инвалидов

**БАРАНОВИЧИ.** О добрых делах молодежного центра «Сузорье», что в Северном жилмассиве города, хорошо знают люди. Вот одно из недавних мероприятий. Работники центра провели «круглый стол» по проблемам трудоустройства инвалидов. Кроме представителей предприятий, на которых применим труд инвалидов, в нем участвовали профориентатор и невропатолог. Люди разных возрастов, в основном молодые, с дефектами здоровья получили обширную информацию о наличии рабочих мест, консультацию специалистов. Большинству участников прямо в «Сузорьи» вручены направления на конкретное предприятие.

Через пару дней инвалиды опять собрались в том же зале на специально для них организованный праздник «В кругу друзей». Таким образом «Сузорье» разрывает круг одиночества инвалидов.

## Тэатр пасля юбілею

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Целяханскі народны тэатр нядаўна адзначыў сваё 30-годдзе. Узрост хоць і малады, але, можна сказаць, ужо і сталы. Не адзін дзесятак спектакляў пабачылі целяханцы, а таксама іншыя жыхары нашага раёна і вобласці.

Расказвае рэжысёр тэатра Данута Іосіфаўна Кузняцова:

— Праца ў тэатры ніколі не спыняецца. Новая наша работа — спектакль-вадэвіль па п'есе Паўла Грыгор'ева "Дачка рускага акцёра" спадабалася гледачам. Яна вясёлая, з танцамі і песнямі. Зараз падбіраем п'есу для будучай пастаноўкі...

Акрамя гэтага, як падкрэсліла Д. І. Кузняцова, ідзе актыўная падрыхтоўка да Новага года. Святочная праграма будзе цікавай і насычанай. Пры Целяханскім гарадскім Доме культуры ўжо 20 гадоў працуе дзіцячы драматычны гурток. Гэта добрая школа падрыхтоўкі будучых артыстаў мясцовага тэатра.

Целяханскі народны тэатр, уступіўшы ў чацвёрты дзесятак гадоў свайго існавання, па-ранейшаму на быстрыні жыцця, па-ранейшаму хвалюе і цікавіць гледачоў сваімі спектаклямі.

*ВАША ПІСЬМО*

## МЯЛІ ЯМЕЛЯ — ТВОЙ ЧАС!

Неяк усе разам — саюзы моладзі, прадстаўнікі уладных структураў, афіцыйныя газеты ды тэлебачанне — загаманілі пра неабходнасць узмацнення выхаваўчай і патрыятычнай работы сярод моладзі. Некалькі гадоў запар маўчалі, а тут, як кажуць, голас прарэзаўся. Семінары сталі розныя праводзіць, круглыя сталы, сустрэчы з журналістамі, дзе пачалі як звычайна, поспехамі хваліцца, грандыёзныя планы на будучае будаваць.

Дык вось наконт поспехаў, а тым больш планаў, іх ажыццяўлення ў мяне сумненні ёсць, якія грунтуюцца на сучаснай рэчаіснасці. Мой дзесяцігадовы сын наведвае адзін з гурткоў Івацэвіцкага Дома дзіцячай творчасці. Ходзіць ён туды надвячоркам, і, каб дахаты было не страшна вяртацца, я за ім пасля заняткаў у гуртку заходжу. І бачу ўсю дзяржаўную нашу палітыку ў адносінах да выхавання маладога пакалення. З аднаго боку — гурткі ў Доме дзіцячай творчасці шматлікія працуюць, тэатры спектаклі ставяць, юныя майстры нешта сваімі рукамі спрабуюць стварыць. З другога боку — паглядзелі б вы, у якіх умовах усё гэта робіцца. Я цяпер і не ўспомню, калі памяшканні Дома дзіцячай творчасці аказаліся ў аварыйным стане з-за аварыі ацяпляльнай сістэмы. І ўжо некалькі гадоў (!) дзеці займаюцца ў аварыйных памяшканнях!

Праўда, Дому дзіцячай творчасці выдзелілі новыя памяшканні ў будынку старой школы № 1. І будаўнікоў-рамонтнікаў нібы туды накіравалі. Але што гэтыя рамонтнікі ўбачылі ў пакоях школы, калі прыйшлі працаваць? Вэрхал: разбітыя дзверы, паламаныя і павыдзіраныя рамы вокан, абарваную электраправодку і г. д., бо ніхто не дадумаўся пакінуць тут вартаўніка. Узяліся, тым не менш, рамонтнікі за работу, а потым нешта рукі апусцілі: то фінансавання, гавораць, няма, то матэрыялаў. І тое, што ўжо было зроблена, пачало псавацца. З-за холаду ў пакоях, напрыклад, пачалі адвальвацца толькі што прыклееныя шпалеры.

Вядома, ні ў аварыйным Доме дзіцячай творчасці, ні ў рамантуемым новым памяшканні не бывалі ні ўдзельнікі абласнога семінару, на якім абмяркоўваліся праблемы патрыятычнага выхавання моладзі, ні мясцовыя івацэвіцкія аматары пагаласкаць аб праблемах і стане работы з моладдзю.

Ну, як усё гэта пракаменціраваць? Толькі, напэўна, словамі мудрай народнай прымаўкі (крыху змяніўшы яе): мялі Ямеля, твой час настаў!

*В. МЯГКІ,*
*г. Івацэвічы.*

## Клуб заслугоўвае таго, каб у ім збіраліся

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Першае пасяджэнне маладзёжнага клуба «ЗІПАПА» (завочны інстытут пазітыўных паводзін) называлася проста і зразумела «Моладзь і міліцыя». Запрошаныя на сустрэчу ў гарадскі Дом культуры супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў І. Лучыц, Л. Квашэвіч і В. Пушыла не разачаравалі юнакоў і дзяўчат: расказалі аб стане правапарадку ў раёне, рабоце інспекцыі па справах непаўнагетніх, адказалі на шматлікія пытанні.

У другі раз клуб сабраў больш удзельнікаў. Зацікавіла, магчыма, злабадзённая тэма «Дзеці свету і СНІД». На гэты раз гасцямі моладзі былі ўрач-інфекцыяніст раённай бальніцы М. Дашэвіч і ўрач скурвендыспансера М. Вакуліч.

Забаўляльная начынка пасяджэння складалася з песень, танцаў і жартоўных прызоў. З гэтым праблем не было. Праўда, мастацкі змест падобных мерапрыемстваў па задумцы іх ініцыятара і арганізатара — райкама Беларускага Саюза Моладзі не адыгрывае вызначальнага значэння. Але без яго мо сумна было б?

● ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# У НАШАЙ КРАІНЕ БЕДНАСЦЬ НЕ ЗАГАНА

*У вёсцы Аляксейкі ўсе добра ведаюць Юрыя Аляксеевіча Давідчыка, трактарыста калгаса «Савецкая Беларусь». Пайшоўшы на пенсію, ён не расстаўся з любімай работай, са сваім сталёвым канём. Па-ранейшаму кожную раніцу дабіраецца ў Стайкі, на мехдвор, дзе і пачынаецца яго працоўны дзень. Ю. А. Давідчык ахвотна згадзіўся пагутарыць з нашым карэспандэнтам.*

**— Ці не стаміла Вас, Юрый Аляксеевіч, паўсядзённая праца! А можа пара падумаць пра адпачынак!**

— Па праўдзе сказаць, стаміла. Відаць, трэба кідаць работу. Ужо і жонка пра гэта не раз казала. Восьмы год на пенсіі і ўсё працую. А чаму? Жыццё такое, прымушае. Сёння пражыць на пенсію вельмі цяжка. Калі ў калгасе не працуеш, то ты ўжо і не той чалавек. Не звяртае на цябе ніхто ўвагі і нікому ты не патрэбны. І дапамогі ўжо, лічы, ад калгаса не будзе. А так усё ж тэхніка ў руках. Трактарыст на сяле, як казалі раней, галоўная фігура.

Сёлета падправіў трохі здароўе ў санаторыі. Так што трымаюся. Словам, паразімуем, а там пабачым.

**— Зімой у калгасе таксама шмат работы для механізатараў. Чым Вы зараз займаецеся?**

— Сапраўды, зімой работы многа. Але цяпер яе значна менш. Тарфакрошку пакуль што не возім, кампосты не робім. Раней на палях бурты арганікі складвалі, каб вясной развесці і заараць. А зараз толькі на весну надзея, каб вывезці гной ад ферм. Усё ўпіраецца ў недахват фінансаў.

Праўда, частка механізатараў занята ў жывёлагадоўлі: падвозяць кармы, вывозяць жыжку і гной з ферм.

Тыя трактарысты і шафёры, якім няма работы, у водпуску. Некаторыя з іх, калі ёсць запчасткі, рамантуюць свае машыны. Калгасная брыгада слесараў занята рамонтам тэхнікі і прычапных прылад. Як бы ні было цяжка, а да вясны трэба рыхтавацца. Нездарма кажуць у народзе: паміраць сабраўся, а жыта сей. Так і ў пенсіянераў: хочаш выжыць — шукай заробку.

**— Калі загаварылі пра калгас, то хацеў бы пачуць ад Вас, Юрый Аляксеевіч, уласныя меркаванні пра будучыню Вашага калгаса. Ці ёсць наогул нейкая перспектыва ў савецкіх калектыўных гаспадарак!**

— Спярша скажу пра наш калгас. Апошнія гады, на жаль, ён у заняпадзе. Тэхнікі новай купляць няма за што, гаруччага таксама. Людзям плацяць за працу невялікія грошы. Словам, у «Савецкай Беларусі» перспектыва не светлая. Я думаю, што толькі асобныя калгасы выжывуць. А астатнія па вушы ў даўгах, у крэдытах. Не калгасы, а банкруты. Дзяржава трымае іх, так сказаць, на плыву. Але ж гэта не можа доўга працягвацца. Трэба шукаць іншыя формы гаспадарання на зямлі.

**— А цяпер, Юрый Аляксеевіч, раскажыце трохі пра сябе, пра сваю сям'ю, пра штодзённыя клопаты і патрэбы!**

— Ну, тут усё вядомае. Жыву ва ўласным доме. Самі пабудаваліся. Хто будаваўся, той ведае, чаго гэта каштуе. Ёсць і кухня летняя, і гаспадарчыя пабудовы. Жывём удваіх. Я і жонка Марыя, таксама пенсіянерка. Выгадавалі чацвёра дачок. Трое замужам. Жывуць у Івацэвічах і Брэсце. Маем паўдзюжыны ўнукаў — тры ўнучкі і столькі ж унукаў. Не даюць яны нам сумаваць. Кожныя выхадныя хто-небудзь з іх у нас.

Няма чаго грашыць: і дочкі, і зяці не цураюцца нас. Усе дапамагаюць не толькі ў сезонныя напружаныя работы.

Старэйшы ўнук Саша, закончыўшы дзевяць класаў, паступіў на вучобу ў Івацэвіцкае ПТВ-162. Ён выбраў маю прафесію — будзе механізатарам. Я асабліва ганаруся гэтым.

Вядома, што заробкі ў калгасе невялікія, і пенсія таксама. Выручае, як і іншых вяскоўцаў, уласная гаспадарка. Трымаем карову, свіней, ёсць куры. Саджаем бульбу і агародніну. Так што і работы, і клопатаў хапае.

Нельга сказаць, што мы багатыя, але і не зусім бедныя. У вёсцы, хто працуе, той ніколі не будзе галодным. Праца, як кажуць, і корміць, і поіць.

**— Юрый Аляксеевіч, Вы патомны хлебароб, працуеце на зямлі, вырошчваеце хлеб. Гэта высокі і ганаровы абавязак. А як Вы адносіцеся да таго, што бохан хлеба ў магазіне ўжо каштуе каля сямі тысяч рублёў, батон — і таго больш!**

— Я не супраць таго, каб усё даражэла. Хай даражэе толькі пры адной умове: каб зарплата адпавядала тым жа цэнам. Каб калгаснік, рабочы, служачы на сваю зарплату або пенсію мог пражыць. Наколькі я ведаю, і зарплата, і пенсіі настолькі мізэрныя, што жыць на іх, гэта значыць, быць толькі на паўгалодным пайку, а жыць у дастатку нельга.

Ужо тры гады чую па радыё і тэлебачанні, як наш Прэзідэнт абяцае знізіць цэны. А яны, наадварот, скачуць усё вышэй, як тыя коні. Мне, простаму чалавеку, гэта зусім не зразумела. Калі гаварыць шчыра, то жыццё не паляпшаецца, а яшчэ больш горшае. Крыўдна, што столькі працаваў, а на старасці ніякага запасу не маеш. Нават на пахаванне. Але мне хочацца верыць, што ўсё зменіцца ў лепшы бок.

**— Мне зразумела Ваша трывога, Юрый Аляксеевіч. Жыць стала вельмі цяжка. Але ж, як і ў кожнага чалавека, у Вас надараюцца вольныя часіны. Чым Вы тады займаецеся, як адпачываеце!**

— Пра сапраўдны адпачынак можна толькі марыць. Часам ля тэлевізара пасяджу, часам за газетай. Гэта ў большасці зімой, а летам і гэтым няма калі займацца. Здараецца, што хочацца нейкі час спакойна пасядзець ці паляжаць, адключыцца ад паўсядзённай мітусні і клопатаў, каб ніхто не трывожыў. Хочацца на старасці проста спакою. Асабліва душэўнага.

**— Дзякую, Юрый Аляксеевіч, за гутарку, за Вашу шчырасць. Здароўя, шчасця і поспехаў Вам і Вашым родным.**

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ.*

● ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПИК?

# В проведении экономических реформ Беларусь все больше отстает от соседей

Проанализировать экономическое положение Беларуси нелегко. Нелегко, как минимум, по двум причинам. Во-первых, официальные статистические данные нередко сильно расходятся с действительными фактами. Во-вторых, экономика в нашем государстве не отделена от политики. Отсюда и постоянная манипуляция различными данными, «упаковка» их в красочную для заказчика форму.

Внутренние условия экономического развития Беларуси крайне неблагоприятны. Но причиной этому отнюдь не развал Советского Союза как нас пытаются до сих пор убедить официальные власти. Главные факторы, отрицательно влияющие на нашу экономику, — собственное неэффективное производство, оставшееся без руля и ветрил, застрявшее на распутье между планом и рынком и все более возвращающееся в абсурдную сигнальную систему «приказов и рапортов».

Видимая административная часть экономического айсберга подпитывается и функционирует благодаря его подводной, теневой части. Если предприятиям не дают возможности легально заниматься экономической деятельностью, не защищая права собственности, грабя налогами, заниженным курсом доллара и другими формами государственного рэкета, то у них остается два выхода — либо сокращать оборот, либо уходить в тень, занимаясь нелегальной деятельностью.

Из мировой практики известно, что краеугольный камень экономического роста — добровольные инвестиции и сбережения. В Беларуси этот камень разрушается, причем, в отличие от камня натурального, необычайно быстрыми темпами. Конфликтная, непрогнозируемая политика Президента не стимулирует владельцев денег к сбережениям и инвестициям.

Как известно, капитал боится шума и брани, как природа боится пустоты. Капитал также боится национализма и дешевых денег. Политика Лукашенко, направленная на восстановление плановой экономики, отпугивает инвесторов и побуждает их к иррациональному экономическому поведению. И мне кажется, что надежды президента на какие-то серьезные инвестиции попросту беспочвенны.

В проведении экономических реформ Беларусь все больше отстает от своих соседей — Польши, стран Балтии, России и Украины. По таким параметрам экономической трансформации, как доля частного сектора в ВВП, приватизация крупных предприятий, малая приватизация, политика кредитов и субсидий, применение законодательства о банкротстве, разукрупнение конгломератов, либерализация цен и развитие конкуренции, либерализация внешней торговли и валютных отношений, развитие банковской системы, Беларусь — явно проигрываем своим соседям.

Экономический провал руководство республики пытается компенсировать массированным идеологическим воздействием на население и мировое сообщество, восстанавливая фантомы тоталитарного общества — страх и веру в вождя. Экономическая история советского народа проходит на территории Беларуси свой второй виток.

*Людмила ГРЯЗНОВА,*
*кандидат экономических наук,*
*БелаПАН.*

ВАША ПІСЬМО

# ПАМІРАЕ ЧАЛАВЕК... ШТО ЗА ГЭТЫМ?

*На жаль, смерць заўсёды крочыць з намі недзе побач. Яна адзіная ўраўноўвае нас усіх. Але ж сучасны чалавек навучыўся, як бы гэта ні здавалася кашчунствам, і з факту смерці атрымліваць выгоду, ператвараць яе у повад для дэманстрацыі сваёй лаяльнасці і аддачасці пэўнай асобе (вядома, важнай...)*

Для ілюстрацыі сказанага прывяду два прыклады. Першы. Памёр 104-гадовы Пётр Пятровіч Бадак, сумленны, працавіты чалавек, патрыёт свайёй Радзімы. Дастаткова сказаць, што імем яго сына, закатаванага фашыстамі, названа адна з вуліц горада. Здаецца, П. П. Бадак заслужыў, каб шматлікія ўстановы, арганізацыі, партыі, супольнасці, асабліва так званы Беларускі патрыятычны Саюз моладзі выстраіліся ў доўгую чаргу ў баранавіцкую газету «Наш край», каб на яе старонках выказаць свой смутак, жалобу з прычыны смерці заслужанага чалавека. Сапраўды, знайшліся людзі, якія выказалі спачуванне — у «Нашым краі» іх апублікавана тры.

Другі прыклад. Памёр бацька старшыні Баранавіцкага райвыканкама Фёдар Нікіціч Гулюк. Я нічога не ведаю пра яго акрамя таго, што ён даў жыццё нашаму галоўнаму вертыкальшчыку... Але газета «Наш край» надрукавала спачуванняў апошняму аж 42. Апошнім, здаецца, смуткаваў і выказваў спачуванне калгас «Іскра». Як каму, а мне гэта нагадвае далёкія царскія часы, калі ўсе падуладныя людзі павінны былі ў кнізе свайго пана запісацца, што яны засмуціліся...

Я разумею, што смерць кожнага чалавека выклікае смутак. Я разумею, калі спачуваюць і выказваюць словы падтрымкі ў родным калектыве. Але прычым тут усе падначаленыя ўстановы? Навошта сапраўды жалобны факт выкарыстоўваць для «прагібання» і пры гэтам плаціць з грамадскай кішэні (спачуванні грошы каштуюць і немалыя!)...

*М. МАЛІНОЎСКІ.*
*г. Баранавічы.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Калі пенсіянер працуе

*Я — пенсіянерка, але яшчэ працую. З мяне, акрамя падаходнага падатку, вылічваюць з зарплаты грошы ў пенсіённы фонд. Ці правільна паступае бухгалтэрыя?*

*Л. КУЦКО,*
*жыхарка г. Івацэвічы.*

На пытанне нашай чытачкі адказвае старшы інспектар аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва райвыканкама **Н. В. САЯВЕЦ:**

— Згодна з новым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб пенсіённым забеспячэнні, з усіх, хто працуе, незалежна ад таго малады ён чалавек ці пенсіянер, з яго зарплаты штомесячна ў пенсіённы фонд робіцца адлічэнні. Так што бухгалтэрыя не робіць ніякіх парушэнняў.

● ПОСТ ДАІ

# Яшчэ адна ахвяра

У снежні цямнее рана. Таму ехаць па дарозе ў такую пару трэба вельмі асцярожна, быць асабліва ўважлівым. Гэтым правілам і пагрэбаваў Аляксандр С., вадзіцель легкавой аўтамашыны. На дарозе Івацэвічы—Пінск 6 снежня прыкладна ў 17 гадзін паблізу вёскі Гічыцы ён пачаў рабіць абгон машыны, якая рухалася ўперадзе, не ўпэўніўшыся ў тым, што сустрэчная паласа свабодная. Гэта і прывяло да няшчасця. Легкавой машынай быў збіты веласіпедыст. Ім аказаўся рабочы леспрамгаса У. Рэхва. Па шляху ў бальніцу ён памёр.

Але самае незразумелае ў тым, што вадзіцель легкавушкі, збіўшы чалавека, уцёк з месца здарэння. А тэрміновая дапамога пацярпеламу была вельмі патрэбная. Каб аказалі яе своечасова, можа б ён і выжыў.

Пачаліся пошукі парушальніка. У пяці кіламетрах ад вёскі Гічыцы ў лесе знайшлі тую легкавушку, пашкоджаную ўпераде. Вадзіцеля ў ёй не аказалася.

У выніку пошукавай работы вадзіцель Аляксандр С., жыхар Пінска, праз тры гадзіны быў знойдзены і арыштаваны. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

*В. МЯДЗВЕДЗІК,*
*дзяржаўтаінспектар*
*Івацэвіцкага*
*райаддзела міліцыі.*

● *ДЕТИ И МЫ*

# ДУХ МОНТЕССОРИ — ДУХ ТВОРЧЕСТВА

***Кто из воспитателей детских садов, младших классов в мире не знает знаменитую основоположницу методики обучения малышей, итальянского педагога, психотерапевта Марию Монтессори! Тот, кто растит подрастающее поколение, руководствуясь указаниями, рекомендациями этой гениальной учительницы, закладывает в маленькие души самостоятельность, работоспособность, смелость суждений, благородство характера.***

***Система Монтессори широко внедряется в Белоруси. В Барановичах, Ивацевичах, Березе, во многих других райцентрах области есть детские дошкольные учреждения, где витает дух Монтессори. Ее учение — не только сборник теоретических рекомендаций и методик, а и целый набор практического материала, создающего в группах и классах особую атмосферу творческого восприятия детьми учебного и воспитательного материала. Немалую роль здесь играют, кроме литературы, и наглядные пособия. Изготовление их — не простое дело. Испытывая недостаток в пособиях, воспитатели и учителя обращаются за помощью на предприятия, в мастерские, а то и просто к родителям, имеющим навыки столярного, слесарного дела. Мастерят всяк по-своему. И часто их изделия не соответствуют классическим требованиям.***

***На Барановичской фабрике детской игрушки «Бриг» со всей серьезностью отнеслись к освоению производства пособий, причем по собственной инициативе и в тесном контакте с воспитателями и учителями. Впрочем, что пересказывать. Лучше послушать директора предприятия Виктора Степановича ОСТРОГУ. В интервью нашему корреспонденту Петру НАГНИБЕДЕ он делится приобретенным коллективом опытом, планами на будущее.***

**— Виктор Степанович, Монтессори уже сотню лет воспитывает детей, сначала сама, а теперь через миллионы своих последователей...**

— Оставим теории педагогам... В городской системе детских садов уже несколько лет постепенно и неуклонно внедряется этот, лучший в мире метод физического и умственного развития малышей. А поскольку наша фабрика специализируется по выпуску детской деревянной игрушки, то к нам обращались в первую очередь с просьбами изготовить те или иные пособия.

**— Кто первый!**

— Суть не в этом. А в том, что инженеры обратили внимание на необычную конструкцию изделий, повышенные требования к качеству... Дальше — больше. На наши бескорыстные взаимоотношения с руководителями дошкольных учреждений обратило внимание гороно. Объем заказов стал возрастать. Тут уж шефской помощью не обойтись. Мы стали согласовывать планы, ассортимент, объем выпуска отдельных партий, порядок расчетов и так далее.

**— Так судьба послала вам постоянных заказчиков, что положительно сказалось на выполнении плана...**

— Да. Начали с малого. Но для освоения такого сложного вида продукции пришлось значительно перестроить технологический процесс, чтобы «подогнать» его под требования Монтессори.

**— Мне, кажется, Вы чем-то недовольны. Тем, что начали выпускать новую и такую благородную продукцию!**

— Производство не может действовать в полсилы. Ну, еще год—два мы будем загружены, пока удовлетворим запросы образовательной сети Барановичей, района, близлежащих регионов. А там, что? Будем только восполнять сломанные пособия? Коллектив не устраивает такая перспектива.

**—Вы считаете, что фабрика легко справляется с заказами гороно!**

— Работаем с напряжением и физическим, и творческим. Нам приносят все новые и новые заказы. А это чаще всего рисунки в журналах и газетах, книгах, а то и просто эскизы. Над каждым должен поработать конструктор, технолог, мастер. Довести чертеж до технологического процесса. Труд, как понимаете, нелегкий, порой длительный во времени. Достаточно сказать, сейчас в производстве 35 наборов Монтессори. А отдельные из них состоят из нескольких предметов. Есть очень маленькие по размеру, а есть большие. Как скажем, мольберт-парта N 2, кровать детская, шумящие коробочки миниатюрные, но у них очень сложное назначение. Трудоемкие изделия. Ассортимент переменчив. Есть много модификаций одних и тех же пособий.

**— Так легко или трудно выполнять эти заказы!**

— Обычное производство. Я к тому, что хотелось бы иметь постоянный объем или портфель заказов. Тогда в целом настроили бы производство на изготовление и лишь с поправками, немного видоизменяя технологию, делали бы и больше, и лучше.

**— Ясно! Мечта любого директора работать не покладая рук, но спокойно.**

— А что здесь плохого? Мы и сами увлеклись системой Монтессори. Наши специалисты разработали игровую мебель кухонную «Янина», а для отдыха — детские кровати. Игровые перегородки, предназначенные для проведения сюжетных игр и занятий с детьми, включают в себя темы: школа, библиотека, торговый киоск, кукольный театр.

**— Много времени уходит на изготовление перегородки!**

— Это же поток. Мы способны в самые сжатые сроки выполнить любой заказ. Не снижая производства детских игрушек.

**— Ловлю на слове! Если все, кто прочитает эти строчки, я имею ввиду работников детских дошкольных учреждений, особенно руководителей, внедряющих учение Марии Монтессори, обратится к вам за помощью, он не будет обижен!**

— Заявляю: коллектив фабрики «Бриг» качественно, в оговоренные сроки выполнит любой заказ. Только бы платили.

**— Есть должники!**

— И немало. Дело в том, что мы понимаем финансовые трудности народного образования, потому иные заказы берем без предоплаты. Потом, конечно, трудновато выбить эти деньги. Да! Подчеркиваю! Это исключительные случаи.

**— Мы должны, нам должны...**

— Фабрика не должна никому ни одного рубля!

**— Вот это да! Чуть ли не впервые слышу такое уверенное, приятное для души, заявление. Значит, дела отличные. И это в наши-то дни продолжающегося падения экономики. Не видна ли здесь «рука Монтессори»!**

— Если бы я начал Вам сейчас перечислять, какие трудности, преграды приходится преодолевать, какие проблемы устранять! По снабжению качественной древесиной, фурнитурой. На каком оборудовании мы работаем. Иные станки уникальны. Инженеры и слесари творят чудеса, восстанавливая их... Как говорится, все дело в кадрах. Многих опытных специалистов перестройка выдворила за проходную. До ста человек сократился коллектив. А сейчас имеем сто двадцать.

**— Эффект Монтессори!**

— Наша Барановичская фабрика «Бриг», если бы ее хотя бы на семьдесят процентов загрузить заказами по изготовлению комплектов по методике Монтессори, дала бы огромный эффект воспитания детей Беларуси.

**— Справитесь!**

— Несомненно. Потому обращаюсь в Министерство просвещения Республики Беларусь: предлагаем фабрику в качестве базового предприятия по изготовлению наглядных пособий для детских садов по системе Монтессори. А свое министерство заверяю, что не снизим производство детской деревянной игрушки.

**— Виктор Степанович, пока там еще министерство подумает, раскачается, а дети не ждут...**

— О, Господи! Пожалуйста! Кто желает сделать заказ? Ради детишек... Даю адрес. Дочернее предприятие «Бриг» ОАО «Актамир», г. Барановичи, ул. Мицкевича, 14. Да позвоните. Быстрее договоримся по телефону 2-10-00.

**— Повезло барановичским ребятишкам, что у них рядом такая заботливая фирма...**

— Мы и иногородних не обидим. Это уж точно. План выполняем по всем показателям. Не страшны коллективу перегрузки. Так уж случилось, что осваивая новые методы хозяйствования и экономики, помогаем внедрять новейшие и эффективнейшие методы воспитания подрастающего нашего поколения.

# Для дома, для семьи, для души...

☺ *ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА*



*Ах, какая я...*

☺ *МУДРОЕ СЛОВО*

## Русские пословицы

- Ласковое слово рубля дороже.
- Хорошее слово и в жестокий мороз согревает.
- Блюди хлеб на обед, а слово — на ответ.
- Недоброе слово больней огня жжет.
- Мне не дорог твой подарок, дорога твоя любовь.
- Любить не люблю, а отвязаться не могу.
- Кого не любят, того и не слушают.

☺ *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## Средства против бессонницы

Многочисленными исследованиями ученых установлено, что отличным средством против бессонницы является молоко. Особенно полезно оно старым людям, страдающим заболеваниями дыхательной системы. Ведь недостаток кислорода особенно дает о себе знать ночью.

Если в течение длительного времени перед сном выпивать стакан теплого молока, проблемы с дыханием исчезнут, а сон наладится. Ведь молоко содержит триптофан – аминокислоту, вызывающую сонливость, не нарушающую при этом деятельности нервной системы.

Хорошее средство от бессонницы – диета из сырых овощей, фруктов и овощных, фруктовых соков. Лук, потребляемый в довольно значительном количестве перед сном, способствует крепкому сну. Если перед сном посидеть в ванне с прохладной водой 3-4 минуты, сон будет крепким и спокойным.

☺ *НОВОГОДНЯЯ ТЕМА*

## Подарки к празднику

На новогодние праздники и Рождество все получают подарки. Это прекрасная и очень добрая традиция, однако не стоит усложнять себе жизнь, стараясь перед праздником отыскать и купить всем родным и близким особые и дорогие подарки. Больше остроумия! Лучше подумайте об особо элегантной и красивой упаковке!

И обязательно научите своих детей заботиться о падарках близким. Поначалу для этого немного надо: вместе упаковывайте в красивую обертку, завязанную ленточкой, подарки для бабушки, брата, гостей... Эта традиция – одна из самых приятных. Надо только обставить вручение подарков самым трогательным, самым необыкновенным образом. Например, на подарке можно написать пожелание или вложить открытку с шутливым приветствием. Дети могут нарисовать свои пожелания, и эти рисунки украсят подарки.

Не забывайте о непременном правиле при организации всех семейных праздников: готовиться к ним обязательно вместе с детьми.

☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

## Овощ овощу рознь

Для того, чтобы приготовить вкусную, питательную витаминную пищу, надо много знать о продуктах, владеть практическими кулинарными навыками. Ведь подчас не столь важно то, какие компоненты и в каком количестве положить в борщ или жаркое, а то, как, в какой последовательности, в продолжение какого отрезка времени это делается. Не менее важно и то, когда (в начале или в конце варки) будет посолено блюдо, в какой посуде оно сварено, когда, в каком виде подано к столу.

Итак, предлагаем несколько советов по кулинарии, без знания и выполнения которых вряд ли приготовленное вами блюдо будет и аппетитным, и калорийным, и полезным.

Перед закладкой в суп морковь, петрушку, сельдерей, лук рекомендуется разрезать пополам и поджарить со стороны разреза на сковородке.

Кислота замедляет варку овощей. Поэтому уксус, томат-пюре, томат-пасту, лимонную кислоту и свежие помидоры добавляют, когда овощи почти готовы.

Готовить овощи лучше в эмалированной посуде и не раньше, чем за полчаса до подачи к столу.

Несколько капель только что выжатого лимонного сока придают замороженным и консервированным овощам и фруктам свежесть и сочность, улучшают вкусовые и питательные свойства блюд.

Щепотка сахара, добавленная в воду, в которой варятся овощи, значительно улучшает их вкус.

Чтобы овощи не переварились, их надо класть в кастрюлю не все одновременно, а в такой последовательности: сначала свеклу, затем морковь, капусту и, наконец, картофель. Помидорами или томат-пастой суп заправляется, когда он почти готов.

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

— Дорогая, — говорит муж жене, — подарок, который я собираюсь тебе сделать к Новому году, будет прекрасно выглядеть на твоем пальчике!

— Спасибо, милый! Только не покупай слишком дорогую вещь.

— Да ты что! Где ты видела дорогие наперстки?

ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

# ТАК БЫЛО НЕ РАЗ

Андрэй і Тамара – настаўнікі. Закончылі розныя педагагічныя інстытуты і па накіраванню паехалі працаваць на Брэстчыну. Тут сустрэліся, пажаніліся. У сям'і дзве дзяўчынкі – Люда і Света. Жывуць у вёсцы за паўсотні кіламетраў ад Брэста. Таму часта туды ездзяць па розныя пакупкі. І на базар, і ў магазіны.

Набліжаўся Новы год, і ад дачок паступіла нямала заказаў. Давялося ехаць у абласны цэнтр, каб не ўзмрочыць дзецям навагоднія святы. Набыўшы ўсё неабходнае, Андрэй і Тамара зайшлі ў сталовую, каб паесці перад дарогай.

Калі сядзелі за сталом, увагу Тамары прыцягнуў пажылы мужчына, які сядзеў справа ад іх праз тры столікі з нейкай маладой жанчынай.

— Я зараз, — сказала яна Андрэю. – Мне спытаць трэба...

Тамара падсела да незнаёмых, пачала размаўляць з імі. А праз некалькі хвілін паклікала да сябе Андрэя і пазнаёміла з дзядзькам Максімам з вёскі Лясаўцы.

А дарогай, калі ехалі дамоў, Тамара расказала Андрэю пра мінулае, пра дзядзьку Максіма і яго сям'ю.

...Гэта было ў час Вялікай Айчыннай. Недзе ў сярэдзіне, калі фашысты з-за сваіх няўдач на фронце і ў тыле, пачалі карныя аперацыі супраць мірных жыхароў. Спальвалі цэлыя вёскі, гналі ў рабства дзяўчат і хлопцаў. Таму цэлымі сем'ямі вяскоўцы ўцякалі ў лес. Часта ў чым стаяць, не захапіўшы нічога ні з адзення, ні з харчу.

Сям'я Кацюбкаў – муж, жонка і чатырохгадовая дачка Тома апынуліся ў Старасельскім лесе. Гэта ў некалькіх кіламетрах ад вёскі Старое Сяло, што ў Жабінкаўскім раёне. Тут жа знаходзіліся і іншыя сем'і з навакольных вёсак.

Тома помніць, як яна спала на зялёным ложку з хвойных галінак, засланых посцілкай, а ранкам, прачнуўшыся, убачыла, што яна прыцярушана снегам.

А праз дзень сям'я Кацюбкаў з дапамогай партызан дабралася да вёскі Лясавец, што ў Маларыцкім раёне. Тут жыў бацькаў сваяк, траюрадны брат Максім. Вось ён і прытуліў бежанцаў.

Тома ўпершыню бачыла дзядзьку Максіма: высокі, з рыжаватымі валасамі і, што найбольш запомнілася, арліным носам. Ні ў кога ў вёсцы не было такога носа, як у дзядзькі. Засталася ў памяці і цётка Маня, жонка Максіма. Выдзялялася яна сваёй тоўстай касой, амаль да пят, акуратна вымытай і заплеценай. Ад гэтай касы яна здавалася яшчэ больш стройнай, а галава трохі задранай уверх.

Амаль год жылі Кацюбкі ў лясаўскіх родзічаў і летам 1944 года вярнуліся ў сваю вёску. Бацьку тым жа летам забралі ў армію, адправілі на фронт, адкуль ён не вярнуўся. А восенню сям'я пабольшала – нарадзіўся хлопчык, у гонар бацькі яго назвалі Іванкам.

Так сталася, што амаль трыццаць гадоў не сустракала Тома лясаўскіх родзічаў. За гэты час закончыла школу, інстытут, працавала настаўніцай, выйшла замуж. І вось сустрэча ў Брэсце.

Тома сядзела за сталом, чула знаёмы дзядзькаў голас, але не бачыла яго твар. Ён сядзеў да яе спіной. А калі павярнуў галаву, то Тома аж здрыгнула: яна ўбачыла той самы арліны нос. «Так і ёсць, гэта дзядзька Максім», — сказала Тома і ўстала з-за стала.

— Вы часам не дзядзька Максім з Лясаўцаў? — спытала Тома, гледзячы ўважліва на мужчыну. Яго рыжаватыя валасы пасівелі, нос завастрыўся, шчокі трохі паўпадалі, але ж вочы былі тымі ж смяшлівымі і зыркалі раз-пораз то на жанчыну, што стаяла перад ім, то на маладую асобу з доўгай касой ля стала.

— Я дзядзька Максім з Лясаўцаў. А хто ж вы будзеце? — ужо сам задаў пытанне.

— А не помніце бежанцаў у вайну? Мы ў вас амаль год жылі. Я Тома Уласавых з Азята.

— Ах, дзетка! Няўжо ж ты? Ты ж была такая малая. Бач — і запомніла мяне. Ты ж усё за маці бегала, за спадніцу трымалася. А цяпер, нябось, і сваіх дзяцей маеш? — дзядзька Максім моцна абняў Тому, як сваю, як родную. – Ну, расказвай, як бацькі, як дзеці?

Прыйшлося пра ўсё расказаць, хоць і каротка. Дзядзька Максім усё здзіўляўся, як праз столькі гадоў малая Тома магла беспамылкова пазнаць яго. Давялося працягваць свой аповед. І самае цікавае ў тым, што яшчэ ў школе, пасля першага дня, Тома ведала не толькі сваіх аднакласнікаў, але і большасць вучняў. А ў інстытуце да Томы часта звярталіся аднакурснікі, дзе, напрыклад, напісана ў тым ж ці дыямаце пра капіталістычны спосаб вытворчасці. І Тома дакладна называла старонкі і нават абзацы на старонцы.

Неяк у інстытуце пасля экзамена па беларускай літаратуры прафесар сказаў Тамары: «Ты здольная студэнтка. Але ж табе трэба было ісці вучыцца толькі на юрыста, там зрокавая памяць так патрэбна».

Сапраўды, у Томы зрокавая памяць як фотаапарат: варта раз чалавека ўбачыць і ў памяці, як у камп'ютары, застаецца назаўсёды. Так было і з дзядзькам Максімам. Так было і ў школе, калі пасля першага ўрока яна ведала кожнага са сваіх вучняў. Так было не раз і не два...

...Ужо сцямнела, калі Андрэй і Тамара прыехалі ў вёску. Іх сустрэлі дачуркі разам з бабай Аняй. Было марозна. Пад нагамі скрыпеў снег. Набліжаўся Новы год.

*С. РЫГОРАЎ.*

КРЫМІНАЛ

## Фальшывае багацце

Нашым людзям падабаюцца амерыканскія долары. Паколькі «баксаў» няма ў банках, грамадзяне набываюць іх абы ў каго. Фальшывамонетчыкам гэта на руку. Яны мяркуюць, што ва ўмовах ажыятажу і спешкі кліенты не вельмі будуць прыглядацца да «зялёненькіх».

Пэўна, на гэта разлічвалі дарослы паляк і падлетак з Ліды, калі спрабавалі ў гандлёвых радах калгаснага рынку Баранавічаў збыць фальшывыя купюры. Супрацоўнікі гарадскога аддзела ўнутраных спраў затрымалі дуэт і выявілі цэлае фальшывае багацце. У падлетка канфіскавалі 11 стодоларавых падробленых банкнотаў, у госця з-за Буга – 45. Адкуль яны ўзяліся? Уладальнікі фальшывых купюр назвалі прыём, травіяльны для нашага часу: набылі долары на «чорным» рынку ў зусім невядомых асобаў.

*(Наш кар.).*

## Знаходка ў падвале

Праводзячы рамонтныя работы ў падвале аднаго з жылых дамоў па вуліцы Паўночнай г. Бярозы, сантэхнік РВА ЖКГ заўважыў у засмечаным кутку закарканую бутэльку з-пад шампанскага, напалову запоўненую цяжкім змесцівам. Шкляную тару пільны работнік камунальнай службы перадаў у раённы аддзел унутраных спраў, дзе хутка высвятлілі, што ў ёй 5,5 кг ртуці. Цяпер апертыўнікі спрабуюць адшукаць гаспадара небяспечнага для здароўя людзей металу.

А каб знайшлі гэтую бутэльку дзеці? Можна ўявіць, які б трагічны зыход чакаў дапытлівых хлапчукоў, акажыся гэтае смяротнае радыёактыўнае рэчыва ў іхніх руках.

*(Наш кар.).*

СТОП-КАДР



*Такого снегопада давно не знала здешняя земля.*
*Фото А. ГАНЧУКА.*



СЛУЖБА 01

## Гарэла мэбля

Адной са снежаньскіх раніц жыхары райцэнтра былі ўзбуджаны з'яўленнем у самым цэнтры горада вялізнага чорна-шэрага слупа дыму, які ўздымаўся, здавалася, да самых нябёсаў. Гарэла гаспадарчая пабудова памерам 11х5 м на падворку І. С. Кокатава. Але гарэла не проста драўляная будыніна. Тут размяшчалася майстэрня па вырабу мяккай мэблі, якую арганізаваў зяць гаспадара В. І. Жук. Пажар разгараўся літаральна на вачах. Прыехаўшыя да месца здарэння тры пажарныя аўтацыстэрны патушылі агонь, аднак ім усё ж аказалася знішчанай шматлікая мяккая мэбля, што там знаходзілася, драўляныя загатоўкі да крэслаў і канапаў, паралон.

Што ж з'явілася прычынай пажару? Пасярод гэтага так званага цэха размяшчалася металічная печ-буржуйка, якая была адзіным сродкам для ацяплення памяшкання. А каля печы – стужкі і пілавінне, непадалёку ляжаў складзены паралон. Выраб мэблі, як вядома, даволі пажаранебяспечная вытворчасць. У апошні час гэты промысел набыў у нашых мясцінах даволі вялікі размах. Падобныя мэблевыя цэхі працуюць не толькі ў райцэнтры, але і ў суседніх з ім вёсках – Стайках, Размерках і г. д. І хоць прыватныя прадпрымальнікі па вырабу мэблі зарэгістраваны ў адпаведных органах, маюць пасведчанні на права займацца названай дзейнасцю, аднак дазвол на адкрыццё ва ўласных гаспадарках надзвычай вогненебяспечнай вытворчасці яны не спяшаюцца чамусьці атрымаць. Дарэчы, падобнага роду цэхі ўяўляюць сабой пагрозу размешчаным паблізу пабудовам суседзяў. Аб знаходжанні цэхаў, дзе займаюцца вырабам мяккай мэблі кустарным спосабам, супрацоўнікі пажарнай службы даведваюцца амаль выпадкова ці ад суседзяў. А ў тых цэхах – мноства грубейшых парушэнняў процівапажарных правілаў, кожнае з якіх паасобку можа выклікаць пажар. Менавіта так і атрымалася ў гаспадарцы Кокатавых. Зазначу, што пагроза пажараў існуе ці не ў кожным збудаванні, дзе вырабляюць мяккую мэблю. Зыходзячы з гэтага, уладальнікам мэблевай вытворчасці неабходна тэрмінова паправіць становішча ў сваіх майстэрнях у адпаведнасці з патрабаваннямі правілаў пажарнай бяспекі.

***В. БАЦКАЛЕВІЧ,***
***начальнік інспекцыі дзяржпажнагляду АВПС Івацэвіцкага раёна.***


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 15 снежня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры передрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 1100.
Заказ 3072.